Наша Свабода

№18(245) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДУ

15 ЛЮТАГА 2002 году ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103

тэл. 284-36-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ

ВЕСТКІ



## Мінск у алкагольных парах

Летась у Мінску выяўлена болей за 200 выпадкаў самагонаварэння. Гэта на 25% больш, чымсьці ў 2000 годзе. Звыш 105 тысяч жыхароў сталіцы прыцягнулі да адміністрацыйнай адказнасці за распіванне алкаголю ці з'яўленне ў грамадскіх месцах нападпітку. І гэта толькі тыя нешчаслівыя, хто трапіўся міліцыі.

## Відэакасетная кантрабанда з Беларусі

Літоўскія мытнікі памежнага пункту Эйшышкі затрымалі буйную партыю відэакасетаў агульнай колькасцю дзве тысячы штук. Іх везлі з Беларусі літоўскай фірме. Запіс фільмаў на касетах зроблены нелегальна. Кошт затрыманых касетаў – 3 000 еўра.

## Лепшыя рэстарацыі Беларусі

На рэспубліканскім конкурсе на лепшы беларускі рэстаран 2001 году пераможцамі сталі сталічны «Ракаўскі бровар» і «Залатое цяля» з Гродна. Галоўнымі крытэрыямі пры вызначэнні лепшых рэстаранаў краіны былі высокая культура абслугоўвання, якасць страваў і адсутнасць заўваг органаў кантролю і санітарнага нагляду.

## Палякі нарэшце атрымаюць «Новую зямлю»

2 сакавіка будзе адзначацца дзесяцігоддзе ўсталявання дыпламатычных стасункаў паміж Беларуссю і Польшчай. У рамках адзначэння гэтай падзеі ў Варшаве пройдзе прэзентацыя паэмы Якуба Коласа «Новая зямля» ў перакладзе на польскую мову.

## Аўтанумар на ўласнае жаданне

Беларускае ДАІ плануе ўвесці паслугу, якая дазваляе ўладальніку аўтамабіля самому вызначаць камбінацыю лічбаў і літараў на сваім нумары. Як падае радыё «Рацыя», на нумары таксама можна будзе пазначыць назву роднага гораду альбо ўласнае імя.

## Маніторынг метро

З 12 па 22 лютага мінскія транспартнікі падлічваюць колькасць пасажыраў у розны час сутак на станцыях другой лініі метро. Мэта – вывучэнне пасажырскай нагрузкі і ўдасканаленне руху цягнікоў.

НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




Крыніца: www.gismeteo.ru

Курс наяўнага даляра на «чорным рынку» 1680

## Кучма: уступіўшы ў саюз з Расіяй, Беларусь прадэманстравала сваю слабасць

Уступіўшы ў саюз з Расіяй, Беларусь прадэманстравала сваю слабасць. Такую заяву, як паведамляе інфармацыйнае агенцтва *«Уралинформбюро»*, зрабіў прэзідэнт Украіны Леанід Кучма падчас паездкі па Ханты-Мансійскай і Ямала-Ненецкай аўтаномных акругах Расійскай Федэрацыі 11-13 лютага.

Паводле словаў Кучмы, Расія рэгулярна пастаўляе нафту Беларусі, пакрываючы 80% яе патрэбаў у «чорным золаце», а Украіна ў гэтым пытанні забытая. Прэзідэнт выказаў таксама меркаванне, што яго краіна можа абысціся і без супрацоўніцтва з Расіяй.

**Дзмітрый УЛАСАЎ, БелаПАН**

## З 1 ліпеня 2003-га – візы ў Польшчу

Плануючы выезд у Польшчу, давядзецца спярша адправіцца ў адно з трох консульстваў – у Мінску, Гродне ці Брэсце. Увод новай візавай сістэмы (у адпаведнасці са стандартамі Еўрапейскага Саюзу) у дачыненнях з Беларуссю, Расіяй і Украінай плануецца на 1 ліпеня 2003 году.

Палякі адцягвалі прыняццё гэтага рашэння, спасылаючыся на тэхнічныя цяжкасці і значныя фінансавыя выдаткі, неабходныя для пашырэння сеткі консульстваў і колькасці іх супрацоўнікаў. Аднак Еўрапейскі Саюз абавязаў Польшчу прыняць дакладны графік уводу візаў да 15 лютага. Прыняццё гэтага рашэння выкліча адпаведныя захады ў адказ з боку Беларусі.

**Людміла ГУЛЯКЕВІЧ**

## Падзяка на юбілей

Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка аб'явіў падзяку «за шматгадовую плённую дзейнасць у выяўленчым мастацтве» жывапісцу Міхаілу Савіцкаму, кіраўніку Творчых акадэмічных майстэрняў жывапісу, графікі і скульптуры Міністэрства культуры Беларусі. Як паведаміла прэс-служба прэзідэнта, адпаведнае распараджэнне кіраўнік дзяржавы падпісаў 13 лютага ў сувязі з 80-годдзем з дня нараджэння Міхаіла Савіцкага.

**Наталля КУЛАГІНА**

# Унцыя ніякіх эмоцыяў

*Пасля абнародавання падрабязнасцяў расійска-беларускага біятлоннага скандалу вакол нашых спартсменак Алены Хрусталёвай і Яўгеніі Куцапалавай падзеі пачалі разгортвацца вельмі шпарка.*



Высветлілася, што перашкодай на шляху выступлення нашых біятланістак стаў зусім не біятлонны саюз Расіі і НАК суседняй краіны, а... губернатар Краснаярскага краю Аляксандр Лебедзь. Менавіта ён заартачыўся, калі даведаўся, што дзяўчаты, народжаныя ў Краснаярскім краі, выступаюць за краіну-канкурэнтку. Па чутках, Лебедзь запатрабаваў за Хрусталёву і Куцапалаву разам 10 тысяч даляраў ЗША. Аднак пасля тэлефанавання яму кіраўніцтва нашага алімпійскага камітэту ў асобе Аляксандра Мядзведзя і, як быццам, пасля ўмяшальніцтва А.Лукашэнкі губернатар асадзіў назад і дазволіў наваяўленым беларускам выступаць. Сваю першую гонку яны прабеглі ўжо пазачора. Вынік не суцяшальны. Пераваляваўшыся, дзяўчаты не змаглі годна праявіць сябе. Гэтаксама выступілі і біятланісты-мужчыны. Ніхто з іх так і не трапіў у дзесятку.

Учора ж нашы хакеісты правялі апошнюю гульню першага этапу са Швейцарыяй і прайгралі 1:2. Зрэшты, гэтая гульня ўжо нічога не вырашала, і цяпер мы будзем чакаць, калі беларусы ў фінальнай частцы турніру будуць гуляць з Расіяй (пятніца), Фінляндыяй (нядзеля) і ЗША (панядзелак). Пасля гэтага беларусам, у адпаведнасці з занятым у групе месцам, абяруць саперніка ў чвэрцьфінале. Гэта будзе альбо зборная Швецыі, альбо Канады, альбо Чэхіі, а мо і Германіі.

Заканчэнне на стар.3

# Пракурор патрабуе расстрэлу

## А жонка Дзмітрыя Завадскага кажа, што віна былых «спецназаўцаў» не даказаная

*На працэсе па справе былога афіцэра спецпадраздзялення МУС Беларусі «Алмаз» Валерыя Ігнатовіча скончылася судовае следства, і 13 лютага пачаліся судовыя спрэчкі.*

Як вядома, В.Ігнатовіча разам з трыма падзельнікамі абвінавачваюць ва ўчыненні цэлага шэрагу цяжкіх злачынстваў, сярод якіх былі і забойствы, а таксама выкраданне аператара *ОРТ* Дзмітрыя Завадскага.

У сваім выступе дзяржаўны абвінаваўца Фёдар Шэдаў прасіў у суду смяротнай кары для ўсіх чатырох абвінавачаных. Пракурор назваў былога афіцэра спецпадраздзялення МУС «Алмаз» Валерыя Ігнатовіча, былога байца гэтага ж падраздзялення МУС Максіма Маліка, былога слухача акадэміі МУС Беларусі Аляксея Гуза, а таксама двойчы судзімага грамадзяніна Сяргея Савушкіна вінаватымі ва ўчыненні забойстваў, выкраданні людзей, вымагальніцтве і іншых злачынствах – усяго 7 злачынных эпізодаў. Па ўсіх іх пракурор палічыў віну чатырох абвінавачаных цалкам даказанай. Яшчэ па адным эпізодзе Ф.Шэдаў палічыў віну недаказанай – гэта што да факту вымагання 15 тысяч даляраў ЗША ў аднаго з прадпрымальнікаў.

Паказальна, што ў гэтым эпізодзе фігуруе былы супрацоўнік Службы бяспекі прэзідэнта Аляксандр Леаненка. Паказанні супраць яго, паводле звестак БелаПАНу, даў на следстве былы супрацоўнік АМАП Максім Кобзар, які пасля вызвалення з-пад варты падчас следства нечакана памёр.

Аднак з высновамі абвінаваўцы не згадзіліся сваякі расійскага тэлежурналіста Дзмітрыя Завадскага. Яны мяркуюць, што людзі, якія цяпер знаходзяцца на лаве падсудных, не маюць дачынення да знікнення аператара.

Выступіўшы пасля Ф.Шэдава, прадстаўнік Святланы Завадскай – жонкі аператара ОРТ – адвакат Сяргей Цурко на падставе праведзенага судовага следства заявіў, што віна былых супрацоўнікаў спецпадраздзялення МУС «Алмаз» Валерыя Ігнатовіча і Максіма Маліка ў выкраданні Завадскага не даказана.

Заканчэнне на стар.3




# «Крыніцу» не аддадуць «Балтыцы»

## Бо яна не хоча будаваць лядовы палац у Беларусі

*Кантрольны пакет акцый беларускага ТАА «Крыніца» не аддадуць расійскай піваварнай кампаніі «Балтыка», паколькі кампанія не згодна з прапанаванымі ёй умовамі пагаднення.*

Як паведаміў 13 лютага на прэс-канферэнцыі ў Мінску старшыня пастаяннай камісіі па прамысловасці Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Сяргей Забалоцец, у ліку іншых умоваў беларускі бок прымушаў «Балтыку» пабудаваць лядовы палац і закупіць высакаякаснае насенне ячменю для яго вырошчвання ў гаспадарках краіны.

Забалоцец заклікаў журналістаў «не ўздымаць ажыятажу вакол «Крыніцы». Паводле яго словаў, «нічога страшнага не адбылося». Ён сказаў, што не ведае ніводнай дзяржавы, акрамя Літвы, «дзе б распрадаваліся лікёра-гарэлачныя і піўныя прадпрыемствы». Вытворчасць піва высокарэнтабельная і «дае вельмі хуткую аддачу», падкрэсліў ён. Разам з тым Забалоцец ухіліўся ад адказу, чаму вытворчасць піва на многіх беларускіх прадпрыемствах стратная, а само піва пакідае жадаць лепшага.

**Юрый КАСЬЯНАЎ, БелаПАН**

# Мілошавіч: час плаціць па рахунку

*Працэс над Мілошавічам можа патрываць два гады. Мілошавічу ставяць у віну ваенныя злачынствы, здзейсненыя югаслаўскай арміяй са студзеня па сакавік 1999 году ў Косаве, а таксама этнічныя чысткі ў Босніі і Харватыі. Пракурор Карла дэль Понтэ ўпэўнена ў поспеху: дасье, сабранае абвінавачаннем, вельмі салíднае.*



Сужэнцы Мілошавічы

Працэс над Слабаданам Мілошавічам, які адкрыўся ў Міжнародным Трыбунале па былой Югаславіі (*ТРІУ*), мае стаць гістарычным. Упершыню кіраўніку дзяржавы выставілі абвінавачанні ў злачыннай дзейнасці на палітычнай арэне. Спатканне Мілошавіча са сваімі суддзямі, аднак, зусім не было непазбежным. Ад моманту яго заключэння ў схевенінгенскую турму 28 чэрвеня 2001 году, адкуль ён выйшаў у аўтарак, каб стаць перад Трыбуналам, шмат хто прадказваў, што яго ўчынкі застануцца не пакараныя. І не беспадстаўна: да самага канца свайго шляху, які прывёў яго ў Гаагу, судовыя падставы для таго, каб паклікаць яго да адказнасці за кроў, пралітую ў ягонай краіне, сутыкаліся з палітычнымі прычынамі, паводле якіх яго можна было б памілаваць. Адваротны адлік пачынаецца з 25 траўня 1993 году. Грамадзянская вайна ў Югаславіі ідзе ўжо два гады, аблога Сараева цягнецца ўжо 13 месяцаў. За сутыкненнямі і масавымі забойствамі пасля абвешчання незалежнасці Харватыі ў чэрвені 1991 году наступілі этнічныя чысткі ў Босніі і Герцагавіне. Улетку 1992 году першыя фатаграфіі лагераў, створаных сербска-баснійскай міліцыяй у раёне гораду Прыедар, абляцелі ўвесь свет, паўсюль выклікаючы жах і асуджэнне. Не ў сілах спыніць крывавай разні, у якой загінулі дзесяткі тысяч мірных жыхароў, Рада Бяспекі ААН прыняла рашэнне стварыць Міжнародны Трыбунал, пакліканы асудзіць ваенныя злачынствы, здзейсненыя ў былой Югаславіі з 1991 году. Слабадан Мілошавіч быў на той час прэзідэнтам Сербіі і галавою ўсёмагутнай сацыялістычнай партыі гэтай краіны.

### Першыя абвінавачанні

Першыя абвінавачанні былі выстаўлены супраць выканаўцаў злачынных загадаў увосень 1994 году. У тым жа годзе, у звязку з эскалацыяй гвалту вакол Сараева, *NATO* ўпершыню з дня свайго заснавання ў 1949 годзе здзейсніла ваеннае ўварванне ў Боснію. Наступным летам сербска-баснійскія войскі захапілі анклаў Срэбраніцу, які «знаходзіўся пад ахowай», і правялі этнічную чыстку, у якой загінулі 8 тысяч баснійцаў. 16 лістапада 1995 году пракурор *ТРІУ* зачытаў абвінаваўчы акт за генацыд і злачынствы супраць чалавека, здзейсненыя ў Срэбраніцы. Ён тычыўся Радавана Караджыча, прэзідэнта Сербскай рэспублікі Боснія, і Ратка Младзіча, генерала сербскай арміі ў Босніі. Слабадан Мілошавіч у той час знаходзіўся ў Дэйтане, дзе 21 лістапада падпісаў пагадненне пра падзел Босніі і Герцагавіны на харвата-мусульманскую Федэрацыю і Сербскую Рэспубліку.

### Пасля Дэйтана – беспакаранасць

23 ліпеня 1997 году Мілошавіч стаў прэзідэнтам усяго, што засталося ад СФРЮ. Калі праца пракурораў з Гаагі і віселa ў яго над галавою, як дамоклаў меч, гэты меч не перашкодзіў яму распаліць новы канфлікт – у Косаве. Спярша ён жалезам і крывёю расправіўся з албанскімі сепаратыстамі, потым Сербія выйшла з перамоваў у Рамбуйе ў сярэдзіне сакавіка 1999 году, потым пачаліся паветраныя ўдары *NATO*, на якія югаслаўская армія адказала палітыкай тэрору ў Косаве.

### Травень 1999 году. Абвінавачанне

Пасля таго як стала вядома пра першыя масавыя забойствы, Луіза Арбур, якая прыйшла на змену Рычарду Голдстоўну ў кастрычніку 1995 году, заявіла, што яна вядзе расследаванне па справе асобаў, адказных за гэтыя злачынствы. Якраз яна з моманту свайго прыбыцця ў Гаагу ўвяла практыку выдачы сакрэтных ордэраў на арышт, якая мела на мэце нечаканы захоп абвінавачаных. Тым больш не выпадкова, што 27 траўня 1999 году яна замест гэтага публічна зачытала абвінаваўчы акт, згодна з якім Слабадану Мілошавічу, а таксама многім другім высокапастаўленым сербскім і югаслаўскім чыноўнікам ставіліся ў віну злачынствы супраць чалавека, здзейсненыя ў Косаве напачатку году. Мір, аднак, усё ж наступіў: 10 чэрвеня Бялград заявіў пра поўны вывад сербскіх войскаў з Косава.

### «Слоба» паў, але застаецца на волі

Карла дэль Понтэ, якая змяніла Луізу Арбур 15 верасня 1999 году, ужо давала зразумець, што яна збіраецца абвінаваціць Слабадана Мілошавіча ў генацыдзе, у звязку з этнічнымі чысткамі ў Босніі.

### І, нарэшце, арышт

Рашучы ўдар быў нанесены з Вашынгтону. Тым часам як у Еўропе вагаліся паміж эканамічным супрацоўніцтвам і патрабаваннямі да Бялграду, ЗША абралі жорсткі варыянт. Яны абвесцілі, што накладуць вета на пазыкі новаму рэжыму з боку МВФ і Сусветнага банку, калі Бялград не выдасць экс-прэзідэнта. Напярэдадні прызначанага тэрміну, 31 сакавіка 2000 году, Мілошавіча арыштавалі па абвінавачанні ў перавышэнні ўладных паўнамоцтваў і фінансавых махінацыях на сродкі сербскага народу. Паведамлялася, што ён пагадзіўся здацца паліцыі ўзамен на гарантыі, што яго не выдадуць Міжнароднаму Трыбуналу.

Але праз тры месяцы гэта адбылося. Вашынгтон зноўку адыграў вырашальную ролю, звязаўшы свой удзел у канферэнцыі краін-донараў, запланаваную на 29 чэрвеня, з перадачай экс-прэзідэнта Трыбуналу ў Гаазе. 24 чэрвеня ўрад выдаў дэкрэт аб экстрадыцыі. Урад пайшоў насуперак рашэнню суду, і 28 чэрвеня Слабадана Мілошавіча пасадзілі на самалёт і даставілі на ваенную базу ў Валкенбургу, што на поўнач ад Гаагі.

**Le Temps, Швейцарыя**

# Злачынствы і пакаранні

**Рудзі ДОРНБУШ,**
**прафесар эканомікі Масачусецкага тэхналагічнага інстытуту**

Дзесяць гадоў таму сацыялізм пацярпеў крах з-за таго, што дыскрэдытаваў сябе ў вачах людзей, якія жылі пры сацыялістычным ладзе. Сёння ж пад агнём крытыкі апынуўся капіталізм. Апаненты разглядаюць яго як сістэму, што працуе на інсайдэраў, г.зн. «сваіх» і іх «сяброў», – і маюць важкія доказы сваёй рацыі. Банкруцтва «Энрону» – выдатны прыклад таго, як тыя, хто мусіць быць пад кантролем, самі дыктуюць умовы сваім кантралёрам.

Вядома, выбіраць паміж капіталізмам і сацыялізмам ужо не даводзіцца. Сацыялізм ператварыўся ў пусты гук, калі вялікія надзеі на «рай працоўных» на зямлі паглынула бюракратычная дрыгва. Але каб нармальна функцыянаваць і заставацца прымальным для грамадства, капіталізм мусіць быць як мага чысцейшы і беззаганны. Шанц разбагацець пры капіталізме, можа, даецца і не кожнаму, але сам ён не павінен ствараць уражання сістэмы, збудаванай такім чынам, каб багацелі толькі тыя, хто ўсярэдзіне, а ўсе астатнія мусілі плаціць па рахунках.

Калі няроўнасць – адзін з адмоўных аспектаў радыкальнага капіталізму, да пэўнай ступені паўстрыманы дзяржаўным сектарам, дык другі такі аспект – патэнцыйная карумпаванасць капіталістычных інстытутаў. Назавем гэта сіндромам «Энрону». Калі камітэты амерыканскага Кангрэсу аслабляюць парламенцкі нагляд за сваімі сябрамі-бізнесменамі, калі бухгалтарскія фірмы ахвяруюць сваёй незалежнасцю, спакусіўшыся на мегакантракты, калі рада дырэктараў карпарацыі не можа сказаць «не», бо заробкі чальцоў рады незраўнана вышэйшыя за тое, што яны рэальна робяць, калі менеджэры скарыстоўваюць сваё становішча ў кампаніі ўва ўласных інтарэсах, – тады і складаецца сітуацыя, у якой капіталізм страчвае рэпутацыю.

Відавочна, гэта і адбываецца апошнім часам у Амерыцы. Даць менеджэрам поўную свабоду дзеянняў у галіне прадпрымальніцтва зусім недастаткова, каб забяспечыць ахову інтарэсаў інвестараў; недастаткова гэтага і для рэалістычнай ацэнкі каштоўных папераў на фондавых біржах. Пакуль яшчэ няма поўнай інфармацыі па справе «Энрону», варта зазначыць, што справа аб ягоным банкруцтве – не толькі буйны скандал з пункту гледжання маралі і дзелавой этыкі, але і пляма на рэпутацыі капіталізму. Яна сведчыць аб працэсах раскладу ў самым сэрцы капіталістычнай сістэмы.

«Паляванне на вядзьмарак», якое ідзе цяпер і падчас якога палітыкі, чыноўнікі з органаў кантролю і нават з Белага дому ратуюць сваю палітычную скуру, сапраўды неабходнае. І, натуральна, з ім звязваюцца папулісцкія настроі, скіраваныя супраць бізнесу. Але, кідаючыся з аднае крайнасці ў другую, учарашняя сваволя абернецца ў будучыні яшчэ пільнейшым кантролем і яшчэ больш жорсткім зводам правілаў для вядзення бізнесу.

Усё, што ні робіцца, – на лепшае. Капіталізм «працуе» толькі ў выпадку, калі ўсе людзі маюць роўныя шанцы, а карпаратыўныя крадзяжы адкрыта пераследуюцца законам. Сённяшняе рытуальнае «паляванне на вядзьмарак», можа, адзіная магчымасць для «босаў» вярнуць свае ранейшыя пазіцыі.

Гэтая цырымонія публічнага экзарцызму застаецца адзіным спосабам, каб зрабіць капіталізм жаданым і прымальным і такім чынам прынесці эканамічны рост і дабрабыт усяму свету. Кіраўнікоў «Энрону» зганяць, кіраўнікі іншых кампаніяў толькі паківаюць галовамі (у прыватнай гутарцы) над маштабамі «чысткі». Яны скажуць, што расследаванні па справе «Энрону», якія праводзяцца Кангрэсам і газетамі, – лішнія, і што час ужо скончыць з імі і перайсці да справы, то бок працягваць рабіць грошы. Але зрабіць гэтак – значыць пакінуць тых, хто сумняецца ў капіталізме, у яшчэ большых сумненнях.

Сапраўды, капіталізму заўсёды патрабаваліся павучальныя гісторыі. У выпадку з «Энронам» мелі месца парушэнні і, магчыма, нават злачынныя паводзіны з боку пераважнай большасці тых, хто знаходзіўся ў непасрэднай блізкасці да менеджменту. Больш за тое, яшчэ невядома, што будзе далей і ці не выйдуць менеджэры найвышэйшага звяна «Энрону» з цяперашняга становішча з кучай грошай у кішэнях, тым часам як працаўнікі кампаніі страцяць свае пенсійныя фонды.

Кітайскі капіталізм таксама повен карупцыі і дзейнасці ў прыватных інтарэсах. Рэакцыя кітайскага ўраду на такую дзейнасць – смяротнае пакаранне для групы самых відавочных і гнюсных зладзеяў. Дэмакратычным краінам Захаду такое рашэнне можа здацца непрымальным. Аднак пазбаўленне волі карумпаваных менеджэраў, чыноўнікаў і палітыкаў – неабходны складнік функцыянальнага і паважанага капіталізму. Паколькі пры капіталізме адбываецца актыўнае пераразмеркаванне рэсурсаў, жыццёва важна, каб быў давер, адкрытасць і адказнасць. Пасля «Энрону», які ілюструе заняпад карпаратыўнае культуры ў цэлым, мы можам вярнуцца на ранейшы шлях толькі праз вызначэнне суровай кары за карпаратыўныя злачынствы.

**© Project Syndicate, люты 2002**

# Багдаду загадана не расслабляцца

Дзяржсакратар ЗША Колін Паўэл прызнаў, што адміністрацыя ЗША разглядае цэлы шэраг спосабаў звергнуць лідэра Іраку Садама Хусейна, перадае *The New York Times*.

«Што да Ірану і Паўночнай Карэі, то ў нас няма ніякіх планаў пачынаць вайну з гэтымі краінамі, – заявіў Паўэл. – Што датычыць Іраку, то ўжо некалькі гадоў палітыка ЗША зыходзіць з наступнага прынцыпу: змена палітычнага рэжыму будзе ў інтарэсах і гэтага рэгіёну, і інтарэсаў народу Іраку».

Зрэшты, Паўэл падкрэсліў, што прэзідэнт Буш яшчэ не прыняў канчатковага рашэння і што ваенныя дзеянні ў найбліжэйшы час не пачнуцца.

Між тым, на думку аналітыкаў, з'яўляецца ўсё больш азнакаў таго, што ЗША рыхтуюцца перайсці да актыўных дзеянняў у гэтым напрамку, хоць адміністрацыя краіны ўсё яшчэ не выпрацавала адзінага плану дзеянняў.

Так, у сакавіку віцэ-прэзідэнт ЗША Дзік Чэйні збіраецца наведаць краіны, якія мяжуюць з Іракам, сярод якіх Саудаўская Аравія, Іарданія і Турцыя. Акрамя таго, Чэйні збіраецца наведаць Англію, Егіпет, Ізраіль, ААЭ, Бахрэйн, Катар і Аман. Як мяркуецца, у ходзе гэтай паездкі гаворка пойдзе якраз пра звяржэнне Хусейна.

# Чаму цяпер такое няўстойлівае надвор'е?

Адзначаныя нядаўна ў краінах Паўночнага паўшар'я, улучна з Беларуссю, незвычайныя перапады тэмператураў і хуткія змены ў надвор'і выкліканы «дзіўнымі» паводзінамі Сонца.

Як паведамляюць брытанскія навукоўцы, апошнімі тыднямі на Сонцы ўзмацнілася актыўнасць магнітных палёў, што прывяло да выдзялення ў космас вялікіх аб'ёмаў энергіі. Прырода такой павышанай актыўнасці, якая візуальна выражаецца ў з'яўленні на свяціле цёмных плямаў, пакуль яшчэ не зразумелая, бо цяпер, паводле разлікаў вучоных, Сонца павінна знаходзіцца ў фазе спаду пасля завяршэння чарговага 11-гадовага цыклу, пік актыўнасці якога прыпаў на ліпень 2000 году. Аднак нечакана Сонца пачало атакаваць Зямлю моцнымі выкідамі энергіі, што і прывяло да рэзкіх ваганняў у надвор'і і адмоўна адбілася на самаадчуванні людзей.

**Віталій МАКАРЧАЎ**

# Найдаражэйшыя гарады

Японія застаецца самай дарагой краінай у свеце і для кароткага наведання, і для сталага жыхарства. Да такой высновы прыйшлі эксперты міжнароднага даследчага цэнтру *Economist Intelligence Unit*.

Згодна з яго штогадоваю справаздачай, японскія Токіо і Осака стаяць на чале спісу з 134 найбуйнейшых гарадоў свету, размеркаваных паводле ўзроўню дарагоўлі. На трэцім месцы – Ганконг, на чацвёртым – Осла.

Самы дарагі горад ЗША Нью-Йорк займае сёмы радок пасля сталіцы Габону Лібрэвіля і Лондану. Найтанней жыццё абыходзіцца ў іранскай сталіцы Тэгеране, лічаць эксперты *Economist Intelligence Unit*.

**Васіль ГАЛАЎНІН**

# Славацкая армія стане прафесійнаю

Урад Славакіі прыступіў да рэалізацыі працэсу скасавання ўсеагульнай вайсковай павіннасці. У найбліжэйшай будучыні працягласць тэрміновай службы будзе скарочана з дзевяці да шасці месяцаў, а армія краіны да 2006 году стане цалкам прафесійная, заявіў міністр абароны Славакіі Йозеф Станк.

Ад стварэння цалкам прафесійнай арміі Йозеф Станк чакае, у прыватнасці, значнай эканоміі бюджэтных сродкаў. Служба ўва ўзброеных сілах павінна стаць прэстыжнай, а прафесія ваеннага – адной з найлепш аплатных у Славакіі.

**Ігар ШАМШЫН**

# *Enron* замест Гары Потэра



Самыя папулярныя аўтары часопісу «Форчун» – трыо на чале з Бетані Маклін узяліся напісаць кнігу пра банкруцтва буйнейшай энергетычнай кампаніі ЗША *Enron*, якая ў снежні мінулага году заявіла аб сваім банкруцтве, спыненні продажу акцыў і звальненні тысячаў супрацоўнікаў. Аўтары кнігі зарабілі на гэтым ашаламляльны ганарар – 1,4 млн. даляраў, прычым авансам. Другіх фінансавых падрабязнасцяў здзелкі не паведамляецца. Вельмі можа быць, што кніга пра чароўныя ператварэнні прыбыткаў «Энрону», загадкавыя фінансавыя махінацыі і магію лічбаў з мноствам нулёў пацясніць у розумах амерыканцаў вобраз Гары Потэра.

Бетані Маклін была адной з першых журналістак, якая звярнула ўвагу на магчымыя фінансавыя махінацыі кіраўніцтва энергетычнай кампаніі. Матэрыял пра гэта быў апублікаваны ў сакавіку 2001 году.

Зрэшты, гэта не будзе адзінаю кнігай, якая асвятляе ўсе падрабязнасці гісторыі, што скаланула добрапрыстойную, адкрытую і празрыстую капіталістычную эканоміку ЗША. Напрыклад, адна з аўтарак часопісу «Тэксас Манслі» Мімі Шварц атрымае за аналагічнае расследаванне 500 тысяч даляраў. Дапамагаць ёй будзе нейкі неназваны суаўтар, у якім газета «Нью-Йорк Пост» падазрае аднаго з топменеджэраў «Энрону».

Нажываюцца на «Энроне» і кіношнікі: кабельны канал *FX* і *Artisan Television* абвясцілі пра намер зняць караткаметражны серыял, які хоць і не будзе дакументальным, але тыпажы будуць лёгка пазнавальныя, а сюжэт – гэткі ж заблытаны і захапляльны, як рэальная гісторыя махінатараў.

# Васіль Быкаў застаецца за мяжой

Днямі нямецкая газета *Frankfurter Rundschau* паведаміла, што Васіль Быкаў 15 красавіка вяртаецца на радзіму ў сувязі з заканчэннем тэрміну ягонай візы ў Германіі. Сам Быкаў, каментуючы гэтае паведамленне на радыё «Свабода», адзначыў, што журналіст некалькі «спрасціў» ягоную праблему. «Я хацеў бы вярнуцца, канечне, аднак не цяпер і не пры гэтых умовах, – сказаў пісьменнік. – Натуральна, я думаю, як быць далей... Некаторыя рэчы залежаць не толькі ад мяне... Ёсць некалькі магчымасцей, якія стануць вядомыя ўвесну, калі я і прыму канчатковае рашэнне. Усё ж мяне апякае Міжнародны пісьменніцкі парламент і яшчэ некалькі арганізацый. Я думаю, што 15 красавіка вяртацца ў Беларусь мне не давядзецца».

Зараз Васіль Быкаў працуе над мемуарамі, у якіх, паводле яго слоў, жадае «распрацаваць некаторыя моманты сваёй аўтабіяграфіі, магчыма, асэнсаваць сябе самога».

У тэлефоннай размове з карэспандэнтам БелаПАНу Карлас Шэрман выказаў надзею, што ўсе праблемы далейшага знаходжання Васіля Быкава ў Германіі будуць паспяхова вырашаны. Паводле слоў сп.Шэрмана, кіраўніцтва ПЭН-цэнтру нават не разглядала магчымасці вяртання пісьменніка на радзіму. «Ён сябе там лепш адчувае і яму там спакойна пішацца. З іншага боку, Васіль Уладзіміравіч поўнасцю інфармаваны аб падзеях у Беларусі, паколькі ён атрымлівае айчынную перыёдыку і паведамленні праз інтэрнэт, а таксама пастаянна слухае радыё», – сказаў Карлас Шэрман.

Нагадаем, што Васіль Быкаў пакінуў Беларусь пры канцы 1997 году. Спачатку па запрашэнні ПЭН-цэнтру Фінляндыі пісьменнік жыў блізу Хельсінкі, потым, атрымаўшы запрашэнне ПЭН-цэнтру ФРГ, пераехаў у Германію.

**Марат ГАРАВЫ**

# «Чорнае» жыццё «вертыкальных» начальнікаў



У камуністычныя часы ў асяродку наменклатурных работнікаў распаўсюджаны быў такі тост: «За чорнае жыццё!». Ну гэта, каб ездзіць на чорнай легкавушцы, спажываць чорную ікру, атаварвацца зацёды ў крамах з чорнага ходу і адпачываць на Чорным моры.

Нягледзячы на іншую пару, сёе-тое ў жыцці «вертыкальных» кіраўнікоў райгарвыканкамаў стала збывацца. Прынамсі, у Гомельскай вобласці ўсе яны адным махам пераселі з расійскіх аўтамашынаў «Волга» на чорныя «Мерседэсы» нямецкай вытворчасці. Гэта зусім не жарт. Днямі вобласць цэнтралізавана атрымала 23 аўтамашыны маркі «Мерседэс-Бэнц» з персанальным размеркаваннем для старшыняў раённых і гарадскіх выканаўчых камітэтаў. Каб прыгнаць новыя іншамаркі ў свае раёны, у Мінск спецыяльна былі камандзіраваны асабістыя кіроўцы «вертыкальшчыкаў».

Гомельскі райвыканкам, напрыклад, ужо паспеў нават зарэгістраваць чорны «Мерседэс» старшыні Уладзіміра Маёрава ў дзяржаўтаінспекцыі.

У Буда-Кашалёве дакументы на ўлік толькі рыхтуюць. Кіраўніца спраў райвыканкаму Зінаіда Мінава вельмі трывожыцца, каб паматы пасля дарогі і пастаўлены ў гараж «Мерседэс» старшыні Корсака не скралі зладзеі. Раённыя і гарадскія кіраўнікі сцвярджаюць, што не трацілі сваіх бюджэтных грошай на набыццё іншамарак. «Мерседэсы» атрыманы паводле адмысловага распараджэння Аляксандра Лукашэнкі. Прычым Гомельшчына яшчэ недаатрымала 4 іншамаркі. З улікам наяўных іх будзе ў рэгіёне 27. Дзе і за якія сродкі набыты шыкоўныя атрыбуты «чорнага» жыцця, гамельчукі дакладна не ведаюць.

Дарэчы, на «Мерседэсы» ў найбліжэйшы час перасядуць раённыя ды гарадскія «вертыкальшчыкі» усёй краіны. Наколькі вядома, указ кіраўніка дзяржавы прадугледжвае агулам набыццё ажно 170 «Мерседэсаў».

Людзі мяркуюць, што купленыя «Мерседэсы» – гэта своеасаблівая падзяка Аляксандра Лукашэнкі «вертыкальным» кіраўнікам за нядаўнія прэзідэнцкія выбары.

У сталічным рэгіянальным прадстаўніцтве па гандлі прэстыжнымі іншамаркамі я пацікавіўся коштам аўтамабіляў «Мерседэс-Бэнц С 180», якія зараз павыдзялялі райгарвыканкамам. Менеджэр аддзелу продажу назваў дакладную суму – 22 800 еўра, альбо амаль 20 тысяч даляраў.

Каб купіць такі «Мерседэс», гомельскі пенсіянер з сярэднім памерам пенсіі 75 тысяч рублёў павінен збіраць грошы як мінімум 37 гадоў. І гэта калі ўсе 37 гадоў ён не будзе ні піць, ні есці, ні купляць адзенне.

Усяго ж на набыццё «Мерседэсаў» толькі для гомельскіх «вертыкальшчыкаў» выдаткавана каля 540 тысяч даляраў. Гэта складае прыкладна трэцюю частку ўпераннішняга доўгу па заробку ўсім працаўнікам сельскай гаспадаркі Гомельскай вобласці.

**Анатоль ІВАНОЎСКІ**

# БТ не паказвае здзекаў

Ёсць на слаўным канале БТ перадача «Мясцовы час». Двойчы ў студзені яна дэманстравала «шэдэўр», які выклікаў замілаванне ў яго стваральнікаў і шок у зоаабаронцаў.

Нам паказалі клеткі-турмы для жывёлаў Пінскага зверасаўгасу. Пасаджаныя туды норкі інстынктыўна, прадчуваючы свой жудасны лёс, спрабуюць уратавацца ўцёкамі, прагрызаючы падлогу і сцены. Бедным працаўнікам даводзіцца іх лавіць.

Распавялі нам і аб прэпараце, які дазваляе забіваць жывёлін без вялікага клопату. Вялізны шпрыц, напоўнены дытылінам, не дасць звярку магчымасці ўратавацца. Пры поўнай свядомасці, на вачах адзін у аднаго наступае пакутная смерць – ад удушша.

Напэўна, у Галоўнае ўпраўленне ветэрынарыі Мінсельгасхарчу прыходзяць працаваць толькі людзі, генетычна запраграмаваныя на жорсткасць. Чым інакш растлумачыць, што дзесяткі гадоў у зверасаўгасах рэспублікі не спыняецца ўсмерчванне звяркоў адным з самых варварскіх, самых жорсткіх спосабаў, найтаннейшым з прэпаратаў?

Ва ўсім свеце, дзе яшчэ не адмовіліся ад вырабу футраў, перайшлі на ўжыванне барбітуратаў. Гэта лекі, якія выкарыстоўваюцца для наркозу і пры дакладным разліку паводле вагі ўсыпляюць без болю.

Не трэба нервавацца: рэжысёр быў тактоўны і, згадаўшы дытылін, сцэну смерці пакінуў за кадрам. Праўда, статыстыку назвалі: 150 шкурак ідзе на адно жаночае футра. 150 разоў смяротная агонія – ці ведаюць цану прыгажосці нашыя модніцы?

У Пінск па шкуркі едуць нават з Фінляндыі – трэба ж, які гонар! Няўжо ў сябе кармоў не знайшлі, справа ж прыбытковая? Ды таму, што ў Фінляндыі падобную звераферму з яе зверaлюдзьмі «зялёныя» сцерлі б з абліча зямлі. Дзякі ёсць паўсюль, тут купяць, там пашыюць, хутчэй за ўсё нам і прададуць. Менталітэт наш дазваляе ўпіхваць нам усё, чаго Захад сёння не прымае. Адгэтуль і падобныя сюжэты.

А слабо нашаму ТБ паказаць садыста ад навукі з Мінскага мединстытуту, які без дай прычыны замучыў дзвацаць сабак пры эксперыментах па замене сасудаў, ад якіх увесь свет ужо даўно адмовіўся як ад непатрэбных?

Або нашых прыгожых жанчын, якія цяжка ступаюць у футрах па падлогі, ледзьве ўпіхшваюцца ў транспарт, – дзе ў той момант іх прыгажосць? Едуць па горадзе людзі, распараныя, цяжка дыхаючы, у адзенні, пашытым на нейкія маразы, – зверааўтобус? Глядзіш, пасля падобнага кліпу і попыт спаў бы на кітайскія футры з сабак, якія чамусьці завуцца ваўкамі.

На жаль, чалавек так уладжаны, што калі яму не тлумачыць, не казаць і не паказваць, ён так і застанецца дзікуном. Ніхто і ніколі не тлумачыў нашым людзям, што футра – адзежа звяроў.

Набілі аскому гаворкі, што ў ТБ няма грошай. Колькі шэрасці і пошласці, непатрэбных ні розуму, ні сэрцу размоваў – або гэта не каштуе грошай? І – ніводнай перадачы, нават найменшай, для дзяцей пра жывёлаў, як быццам іх няма ў прыродзе.

Звесткі даследаванняў у Расіі і ЗША супадаюць: 75-80% маньякаў пачынаюць сваю дзейнасць са знішчэння катоў і сабак. Таму, заклікаючы любіць жывёлаў, зоаабаронцы найперш думаюць пра чалавека. Калі мы патрапім навучыць дзіця любіць прыроду, спачуваць жывёле, яно не будзе жорсткае і да людзей.

Можна адкрыць яшчэ парачку каналаў на ТБ, што гэта зменіць?

Мы ніколі не дасягнем той грані цывілізацыі, якая даўно ўваходзіць у культурны слой развітых краін, калі свет жывёлаў застанецца для нас толькі выходным матэрыялам для задавальнення сваёй дзікасці.

**Маргарыта ПУШКЕВІЧ, фота Ул. ШЛАПАКА**



## ДАТЫ, ПАДЗЕІ, ЛЁСЫ

### 15 лютага

**1882**. Разам з паплечнікамі па паспяховым замаху на цара Аляксандра II быў асуджаны да пакарання смерцю ўраджэнец Магілёва Рыгор Ісаеў. Прашэння аб памілаванні не падаваў, але новы цар Аляксандр III замяніў яму пакаранне на пажыццёвую катаргу. Праз чатыры гады Ісаеў памёр ад сухотаў.

**1922**. Пачаў дзейнічаць Пастаянны міжнародны трыбунал у Гаазе.

**1942**. Нямецкія ўлады выдалі загад аб скасаванні на акупаваных тэрыторыях калгаснага ладу і аднаўленні прыватнай уласнасці. Паводле гэтай «зямельнай рэформы» усталёўваліся тры формы землекарыстання: абшчынная (у межах былых калгасаў), карпаратыўная і аднаасобная. Саўгасы пераўтвараліся ў дзяржаўныя маёнткі.

**1947**. Урад СССР адмысловай пастановаю забараніў савецкім грамадзянам браць шлюб з замежнікамі.

**1957**. У Дэлі нарадзіўся чалавек найменшага росту ў свеце. Завуць яго Гул Махамед, рост яго сягае 57 см, а вага – 17 кг.

**1982**. Жахлівы шторм каля берагоў Ньюфаўндленда разбурыў нафтаздабыўную платформу. Загінулі 84 чалавекі.

### 16 лютага

**1942**. Савецкія вайскоўцы разбурылі помнік удзельнікам Вяліжскага паўстання, усталяваны ў жніўні 1941 г., і расстралялі святара Паўла Савіцкага, які служыў паніхіду па паўстанцах 1918 г.

**1957**. Органы КГБ арыштавалі выкладчыка Гродзенскага педінстытуту, літаратуразнаўцу Браніслава Ржэўскага. Праз месяц яго асудзілі да сямі гадоў зняволення «за паклёпы на савецкі грамадскі лад і нацыянальную палітыку КПСС».

**1980**. На поўнач ад французскага гораду Ліёну утварыўся аўтамабільны затор даўжынёю 176 км.

**1987**. У Ізраілі пачаўся судовы працэс над 66-гадовым амерыканцам украінскага паходжання Джонам Дэменьянюком, які падчас вайны абслугоўваў газавую камеру ў канцлагеры Трэблінка. Суд прызнаў, што Дэменьянюк мае асабістае дачыненне да смерці 870 тысячаў габрэяў і прыгаварыў «Івана Жахлівага», як яго называлі сведкі, да шыбеніцы.

### 17 лютага

**1905**. Эсер і паэт Іван Каляеў выбухам бомбы забіў у Крамлі дзядзьку цара Мікалая II, маскоўскага генерал-губернатара Сяргея Раманава, за што пазней быў пакараны на шыбеніцы.

**1962**. У Германіі падчас паводкі і шторму загінулі 343 чалавекі, у тым ліку 281 – у Гамбургу.

**1972**. Найбольш папулярным аўтамабілем у свеце стаў «жук» фірмы *Volkswagen*: аб'ём продажу перавысіў 15 млн. штук і пабіў рэкорд, які некалькі дзесяцігоддзяў трымала мадэль *T* фірмы *Ford*.

**1972**. У Лондане адбыўся прэм'ерны паказ шоу гурта *Pink Floyd* «Адваротны бок Месяца». Праз пэўны час кружэлка *The Dark Side of the Moon* пабіла ўсе рэкорды знаходжання ў хіт-парадах.

### 18 лютага

**1932**. Нарадзіўся амерыканскі рэжысёр чэшскага паходжання Мілаш Форман. Найбольш паспяховы сярод ягоных фільмаў – «Палёт над гняздом зязюлі» (1975), які атрымаў пяць прэміяў «Оскар», у тым ліку – за рэжысуру. (Аўтару адпаведнай кнігі Кену Кізі экранізацыя, аднак, не спадабалася, бо галоўным персанажам Форман зрабіў не развязлівага індзейца Бромдэна, а бунтара Макмёрфі, ролю якога выканаў Джэк Нікалсан.)

**1967**. Памёр ад раку вынаходнік атамнай бомбы Роберт Апенгеймер. Попел нябожчыка развеялі над Віргінскімі астравамі, дзе ён любіў адпачываць.

**1930**. Амерыканскі астраном Клайд Томба адкрыў 9-ю планету Сонечнай сістэмы – Плутон.

### 19 лютага

**1922**. Нью-йоркскае радыё пачало трансляваць радыёшоу «Поўны дурань», дзе ўпершыню для ажыўлення перадачы былі скарыстаныя смех і воклічы публікі, адмыслова запрошанай у студыю.

**1937**. Надзвычайны з'езд Саветаў БССР ухваліў новую Канстытуцыю рэспублікі. У ёй пацвярджалася ўсеўладдзе камуністычных партыйных органаў, але абвяшчалася, што ўся ўлада належыць працоўным гораду і вёскі.

**1942**. Японская авіяцыя зрабіла першы і апошні налёт на Аўстралію.

**1952**. Памёр найбуйнейшы нарвежскі пісьменнік Кнут Гамсун.

**1972**. У мястэчку Пэрэдайс у штаце Вашынгтон за год выпала сусветна рэкордная колькасць снегу – больш за 31,102 м.

**1972**. Памёр шатландскі рэжысёр, «бацька дакументальнага кіно» Джон Грырсан.

### 20 лютага

**1877**. Адбылася прэм'ера балету Пятра Чайкоўскага «Лебядзінае возера».

**1901**. Льва Талстога адлучылі ад праваслаўнай царквы за апублікаванне ўласнага варыянту Новага Запавету.

**1932**. Льва Троцкага, які тады жыў у Нарвегіі, пазбавілі савецкага грамадзянства за крытыку бюракратычна-рэпрэсіўнага рэжыму Сталіна.

**1962**. Першы амерыканскі астранаўт палкоўнік Джон Глен тройчы абляцеў Зямлю на караблі *Friendship 7*.

**1985**. У Ірландыі легалізавалі продаж прэзерватываў.

### 21 лютага

**1852**. Памёр ад меланхоліі і «лячэбных» кровапусканняў выдатны сатырык і рэлігійны містык Мікалай Гогаль. Не выключана, што памёр ужо пад зямлёю: падчас перапахавання ў 1931 г. выявілася, што цела пісьменніка ненатуральна скручанае, а тканая абіўка труны парваная.

У сваім тэстаменце Гогаль прасіў пахаваць яго толькі тады, калі не будзе сумненняў, што ён сапраўды памёр, але сябры, мабыць, паспяшаліся.

**1916**. Пачаўся наступ нямецкіх войскаў пад Вердэнам. У бітве, якую ветэраны потым назвалі «мясарэзкай», Германія страціла каля 600 тысячаў чалавек, Францыя – 358 тысячаў.

**1947**. Эдвін Лэнд упершыню прадэманстраваў створаную ім фотакамеру *Polaroid*, якая за хвіліну выдавала гатовы чорна-белы здымак.

**1947**. Амерыканскае тэлебачанне распачало паказ першай мыльнай оперы «Незабыўная жанчына».

**Падрыхтаваў Юрась БАРЫСЕВІЧ**

